Opłate pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

**Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:** Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана абвестак:** перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 23 Вільня, Субота, 9-га кастрычніка 1926 г. Год I.

## Трыумф правіцы.

Прадстаўнікі польскае манархістычнае правіцы—трыумфуюць. Віленскае „Słowo“ ажно „сьліну пускае“ ад захапленьня!

І ёсьць чаго.

Уваход у склад ураду п. Пілсудскага двух віленскіх манархістаў-абшарнікаў—Мэйштовіча і Незабітовскага — гэта яўны доказ таго, што польская палітыка пойдзе выразна ў тым кірунку, аб якім абшарнікі лятуцяць ужо даўно. І „Słowo“ рашуча гэта сцьвярджае, слушна бачучы ў аддачы ўлады прадстаўніком абшарніцтва—паварот Польшчы да антыпарляманцкага рэжыму, доказ таго, што зямельная рэформа будзе аканчальна пахавана, не пасьпеўшы зьдзейсьніцца.

„Лёзунгам сучаснага габінэту можа быць: польскія патрыёты, падайце сабе рукі—панад партыямі!“—так піша „Słowo“.

Запраўды-ж: абшарнік Мэйштовіч, манархіст і кансэрватар, за адным сталом з „сацыялістам“ Морачэвскім—ці-ж гэта ня трыумф „патрыятызму“ над усімі клясавымі імкненьнямі і інтарэсамі?

Вельмі расчуляючы абраз... Адно бяда: ў ахвяру „патрыатызму“ прыносяцца запраўды інтарэсы... толькі і выключна *працоўных масаў*, пад той час, як польская буржуазія, польскія абшарнікі будуць на гэным патрыатычным агні пячы смашную пячэню — *для сябе*! У імя „патрыятызму“ прадстаўнік ППС будзе *сілай дзяржаўнае ўлады* бараніць тую „сацыяльную раўнавагу“, на якой грунтуе свой дабрабыт буржуазія, ды проці якое *на славах* борацца партыя польскіх „сацыялістаў“!

Трэба адзначыць, што ад самага „маёвага перавароту“—да гэтага йшло. „Kur. Wil.“ сцьвярджае, што ўся палітыка п. Пілсудскага—гэта-ж было імкненьне да супрацоўніцтва з кансэрватыўнымі элемэнтамі, — асабліва на кракаўскім груньце ў часох сусьветнае вайны і тварэньня легіёнаў... Дык у мамэнт, калі ўся ўлада ў дзяржаве перайшла ў рукі п. Пілсудскага, імкненьне гэтае мусіла зьдзейсьніцца.

Яно і зьдзейсьнілася.... Пад штандарам *патрыятызму* п. Пілсудскі хоча йзноў павясьці за сабой польскі народ, як было шэсьць гадоў назад. Але ці ўсе пойдуць за ім?

Буржуазія, абшарнікі—ўжо пайшлі. З працоўнымі масамі—справа цяжэйшая: бо куды-ж хоча іх вясьці „Камэндант“, што супіць ім урад „нацыянальнае еднасьці“?

Мы ўжо сказалі: урад п. Пілсудскага вымагае ад іх адрачэньня ад клясавых інтарэсаў, паказуючы ім міраж ужо ня проста *незалежнай*, але й *вялікай*, *магутнай*, „*моцарствовай*“ *Польшчы*, у якой... таксама будуць пакутаваць работнікі й сяляне, як пакутуюць сёньня....

Дык дарэмна трыумфуюць абшарнікі, дарэмна сьціскаюць руку „прадстаўніка“ польскага пралетарыяту — міністра Морачэвскага: ён—*генарал бяз арміі*, „прадстаўнік“ — без мандату. І міраж клясавае згоды хутка разьвеецца, а жорсткая запраўднасьць раней ці пазьней аберне сяньняшнюю радасьць буржуазіі—ў „плач і скрыгот зубоў“..

Ніколі не зьнішчажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!



**Выстаўка беларускае прэсы — за 20 гадоў.**

(Чорныя мейсцы паказуюць, дзе паліцыяй зьняты радавыя выданьні).

## Ратуйце нашу вёску!

(*Да справы помачы пацярпеўшым ад неўраджаю*).

Пакуль там урад марш. Пілсудскага зьбіраецца „ашчасьлівіць“ беларускія масы некалі ў будучыне, аддаючы іх сяньня цалком пад уладу найбуйнейшых абшарнікаў нашага краю, — вялізарная часьціна Заходняе Беларусі перажывае страшны час. Ад сёлетняга неўраджаю,—як сцьвярджае навет орган „казённых дэмакратаў“ („Kur. Wil.“),—„насяленьне, пацярпеўшае ад гэтае катастрофы, ня толькі ня ў сілах выплачываць падаткі і „агнёвыя складкі“, але ня мае магчымасьці здаволіць свае найбольш элемэнтарныя патрэбы, зьвязаныя з гаспадаркай на ральлі. Шмат у якіх гмінах насяленьне зусім ня мае збожжа на пасеў, —а сяўба набліжаецца“...

А вось жменя фактычных даных — ізноў-жа паводле тэй жа казённае газэты.

Найбольш пацярпелі паўночна-ўсходнія паветы Заходняе Беларусі. Прыкладам, у Пастаўскім павеце сёлетні збор даў гэткі процант нармальных збораў ураджаю: жыта—28,7 проц., аўса—51 проц., ячменю—64,5 проц. У Ясеўскай і Манькавіцкай гмінах жыта сабралі толькі 15 проц. нармальнага ўраджаю, у Кабыльніцкай — 20 проц., у Луцкай, Лучайскай, Нарыпкай—25 проц., у Дунілавіцкай, Мядзёльскай, Ваўкалацкай, Жосьневскай —30 проц., у Пастаўскай і Занароцкай—найбольш 50 проц.! На пражыцьцё для 98,000 душ насяленьня павету трэба найменш 196,000 квінталаў жыта, а сабралі ня больш, як 63,000, ды агульны недабор жыта—133,000 квінталаў!

Ня лепш выглядае справа і ў Ашмяншчыне, дзе катастрофа захапіла ўсю паўдзённа-ўсходнюю часьць павету. І жыта, і авес тутака — прапалі. Прыкладам, у Сольскай гміне ў вёсках Бялкоўшчына, Падмлыньне, Вэнславяняты, Сьцюдзеніцы, Стымоні, Дарадзішкі, Манькавічы, Кугляны, Гайдзі, Трахінцы, Заазерцы і інш.—з адсеянага пуда жыта сабралі ад 1½ да 2 пудоў. Палажэньне тут робіцца асабліва цяжкім з тае прычыны, што вёска церпіць ад недароду ўжо трэці год.

Хто-ж і як маніцца ратаваць нашу вёску ад голаду і аканчальнае гаспадарчае руіны? Як мае споўніць у гэтай справе сваю павіннасьць перад нашым сялянствам Польская Дзяржава, якая дагэтуль умела толькі браць ад нас, ды нічога нам не давала?

Ратаваньне нашага сялянства ад голаду аддадзена ў рукі... тутэйшых абшарнікаў — у асобе іх прадстаўнікоў у ўрадзе п. Пілсудскага. Дык ужо з першых крокаў ураду відаць, што ўлада ў першы чарод клапоціцца аб інтарэсах уласьнікаў панскіх двароў, у якіх таксама неўрадзіла. Гэтак урад абяцуе прыпыніць спагон грунтовага падатку і адкласьці сплату дадзеных „рольнікам“ прадукцыйных крэдытаў. Але апошняя палёгка адносіцца выключна да абшарнікаў: „прадукцыйных крэдытаў“ сялянам зусім не давалі... Дый з самога падыходу да справы органу „казённых дэмакратаў“, „Kur. Wil.“, відаць, дзеля каго ўрадавыя сфэры будуць старацца. У названай газэце дасłоўна чытаем:

„Малыя гаспадаркі, якія высяваюць па 10-15 пудоў, маюць недабору каля 30-40 пудоў. Недабор гэта цяжкі, але продажа паршука, які павінен быў пайсьці на пракорм сям'і, продажа прыплоду, а ўрэшце апошняе каровы пакрые недабор. Гаспадарка аслабіцца, але ня згубіцца... Але што пачне сярэдняя ўласнасьць? Калі яна не дастане належнае дапамогі, дык будзе прымушана распрадаць увесь жывы і мёртвы інвэнтар, а зямлю аддаць у арэнду“.

Дык так: сяляне няхай дохнуць з голаду і галаданьнем усяе сям'і пакрываюць недабор, каб было на сытае жыцьцё нялічаным дармаедам у гміннай ды павятовай адміністрацыі, на праўку дарог для паноў і іншыя нялічаныя падаткі і павіннасьці. Пагаладаць ім—ня шкодзе!—Але вось, калі абшарнікам паменшаюць даходы, калі яны будуць прымушаны за часьць збору аддаваць зямлю ў арэнду—мо' тым-жа сялянам, дык гэта ўжо няшчасьце! Іх, відаць, і будзе ў першую чаргу ратаваць пан Незабітоўскі — новы міністар земляробства.

На пасеўную помач урад даў 350,000 злотых. Але ці многа сялян атрымала з гэтага што-небудзь? Сумляваемся...

А тымчасам галадаючым сялянам ужо прыходзіцца расплачывацца за палітыку ўраду п. п. Бартля-Пілсудскага: ня гледзячы на самыя вострыя пратэсты працоўных проці вывазу заграніцу хлеба з ваяводстваў, дзе ўраджай быў сёлета добры, вывазная палітыка ўраду падбіла цану за хлеб да такое вышыні, што цяпер таньней выпісываць збожжа з Угоршчыны, чым купляць намейсцу! Так прынамся заявіў міністар Рачыньскі, як быў перад сваей адстаўкай у Вільні..

Дык што-ж рабіць?

Ведама, маўчаць нам нельга. Мы маем права трэбаваць, каб дзяржава, якая жыве з нашае працы і мазаля, ня толькі звольніла пацярпеўшыя ад катастрофы паветы ад усялякіх падаткаў і павіннасьцяў на гэты год, але і дапамагла стануць на ногі, каб не апошняй каровай і паршуком мы маглі пакрыць свой недабор, а ўрадавай дапамогай грашмі і крэдытамі. Трэба, каб кожная гміна, дзе ёсьць прадстаўнікі сялянства, каб кожын соймік, дзе ёсьць хоць адзін сьвядомы абаронца сялянскіх інтарэсаў, паднялі свой голас у гэтай справе. Трэба, каб справу падзелу дапамогі ў кожнай вёсцы ўзялі ў свае рукі адумысныя сялянскія камітэты і не далі адміністрацыі спэкуляваць на народнай бядзе і карыстацца няшчасьцем людзей дзеля тых ці іншых палітычных мэтаў.

І трэба рабіць гэта ўжо цяпер, зараз, не чакаючы ніводнага лішняга дня,—пакуль ня зьедзены яшчэ апошні кусок хлеба, не прададзена апошняя жывіна. Бо страшны абраз пабачым у нашай вёсцы на прадвесьні,—і тады позна будзе „ратаваць“ зьнішчаную за зіму гаспадарку і абяссілеўшых ад галадухі рабачаяў!

